# Усякая ўсячына

### Чым займаюцца амерыканскія вучоныя

Амерыканскі інстытут даследавання апініі публічнасці, не могучы знайсці нічога лепшага да работы, займаецца такімі «навуковымі» праблемамі, як ужыванне людзьмі крэмаў ды духоў. Паводле гэтых даследаў, у Амерыцы на кожных 100 мужчын 61 ўжывае крэм да скуры 29 — духі і адэкалон, а 15 ваду для валос. Сярод жанчын крэм ужывае 86, духі 72, а ваду да валос 10. Гэты інстытут сцвярдзіў, што ў Амерыцы на сто мужчын ужывае алкагалічныя напіткі — 95, а жанчын — 85.

### Стары пясняр

Незвычайнай памяццю вызначаецца 77-гадовы пясняр Саякбай Караляеў з Кіргізскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Ужо шэсць год некалькі працаўнікоў Кіргізскай Акадэміі навук запісваюць змест гераічнага народнага эпасу «Манас» з вуснай дыктоўкі Караляева. Да гэтага часу спісана каля 400.000 вершаў. Ужо даўно хацела Акадэмія навук надрукаваць эпас, але пясняр прыпамінае штораз новыя часткі.

### Скромны герой

У Чыкага (Зл. Шт. Ам.) на дзяўчыну, якая спакойна гуляла, напала трох бандытаў. Яны, зразумела, і не падазравалі, што дзяўчына з'яўляецца барцом джыджысу. Хутка бандыты качаліся, стогнучы, на зямлі.

Паліцыя і журналісты хацелі расславіць дзяўчыну за яе геройства, але яна пачала прасіць, каб гэтага не рабілі, глумачачы тым, што магла б, дзякуючы гэтаму, страціць усякія перспектывы выхаду замуж.

### Штучнае вока

Амерыканскія вучоныя робяць спробы сканструяваць штучнае вока. Пацыент, які аслеп 18 год таму назад, пасля далучэння пры дапамозе дроцікаў апарату да зрокавага нерва, выразна спасцярагаў святло. Апарат перадае мазгу светлавыя сігналы. На гэтых самых прынцыпах асноўваецца канструкцыя штучнай рукі, прадэманстраваная на брусельскай выстаўцы.




## АМЕРЫКАНСКАЯ МОЛАДЗЬ ПАПАЎНЯЕ ДЗВЕ АРМІІ



Армію ўзброеных сіл.




І армію беспрацоўных.

Малюнак Р. Грамыкі

### Рашучы голас

Муж злосны: «Я ўжо не магу нічога сам вырашыць, заўсёды павінна быць па-твойму».

Жонка: «Ну, гэта ўжо перавелічэнне. Калі паміж намі згода, дык тады заўсёды бывае па-твойму. Толькі, калі мы ў чымсь не згаджаемся, тады, зразумела, астанецца так, як я хачу. Трэба ж, каб часам было і па-мойму». (с)

## Дымок

*Калі мы добра разгледзімся, дарагія чытачы, то пераканаемся, што ў нашым жыцці дымок не апошнюю ролю адыгрывае. Напрыклад, вяртаецца чалавек з поля пасля працавітага дня, кашуля ад поту пластом на спіне прылiпае. Здавалася б, такому апрача адпачынку нічога больш не трэба, а жонка ставіць перад ім міску з гарачай кашай. Ад міскі пара духмяная, на дымок падобная падымаецца, і ў спрацаванага чалавека ноздры пачынаюць рухацца, а рука машынальна цягнецца за лыжкай. Той, хто ведае смак нашай кашы, паранай у вясковай печы, дзівавацца не стане, калі ўбачыць едака, які махае лыжкай як кравец іголкай.*

*Маладыя хлопцы, часта дарацца, кахаюцца. У многіх бывае, год не міне, а каханне развеецца, як дымок.*

*У больш цярплівых надзея ўецца, як дымок над трубой печы. Над нашымі лясамі і пералескамі таксама часта дымкі віднеюцца, гэта самагоншчыкі перавыконваюць нормы. Міліцыянеры знаходзяць у кустах самагонныя апараты. Закваска і самагонка на вачах, а хіміка няма, недзе знік, як дымок.*

*Толькі наша дружба без дыму, яркім полымем гарыць, таму што гэта полымя шматтысячных сэрц нашых чытачоў.*

Дзядзька Лявон

## У музеі

Экскурсія аглядае грэчаскую скульптуру, якая прадстаўляе мужчыну. У фігуры адламана рука, пашкоджана галава і адна нага.

— Гэта фігура прадстаўляе пераможца, — паясняе праваднік...

— Цікава, як тады выглядаў бы пераможаны, — заўважыў адзін з экскурсантаў.



### Ад усяго сэрца

— У нас цудоўная дача. Лес, рэчка, пляж. Прыязджайце ў госці. Пагуляеце, падыхаеце, адпачнеце.

— Дзякую, прыеду. А які ваш адрас?

— Госпадзі, ды чаго там цырымоніцца! Прыязджайце проста, без адрасу.

## Вытлумачыла

Пакупнік:

— Малако, якое я ўчора ў вас купіў, было змешана напалову з вадой.

Прадаўшчыца:

— Дык вы ж бачылі, што ўчора цэлы дзень ішоў дождж, а каровы ходзяць па полі на дажджы.

Бацька:

Ну, і як табе не надакучыць так лодырнічаць? Для мяне праца заўсёды з'яўляецца адпачынкам.

Сын:

— Дык таму тата так дрэнна выглядае.

## Філасофская крама „Мудрагарпаліца"

*(Купляем і прадаем бясплатна)*

Мудрацу паведамілі, што цёшча яго, мыючы бялізну, паслізнулася і ўпала ў раку, але што цела яе яшчэ не знойдзена. Мудрэц увайшоў у раку і пачаў шукаць уверх па цячэнню.

Яму кажуць: «Мудрэц! Ці ж можа труп плысці супраць цячэння? Ты шукай яго лепш унізе па цячэнню». Мудрэц паківаў галавою і заўважыў: «Ах, вы не ведаеце, які яна ўпарты чалавек! У яе ўсё наадварот. Вы ўжо мяне пакіньце. Я добра вывучыў яе характар!»

*

Калі мудрэц убачыў велізарнае возера, ён усклікнуў: «Гляньце, якая цудоўная паша, сюды толькі гнаць вясковыя статы! Але вось, вазьмі ж ты, і сюды вады налілі!».

*За гумар плацім па 20 зл. ад штукі. Рэдакцыя мае права выбару*

## Лясная песня

Словы Адама Русака Музыка Ул. Алоўнікава.



Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Ой, шумлівы ты, лес малады.
Днём і ўночы я чую
Вашу песню лясную,
Ды успомню былыя гады.

Ды успомню пажары
І варожыя хмары,
І завеі халодных снягоў,
І слату, і нягоды,
І начныя паходы
І агні партызанскіх кастроў.

Край любімы мой, родны
Ты на свеце свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі цвіў.

Ты багаты лясамі,
Залатымі хлябамі.
Наша поле калоссем шуміць
Ой, бярозы ды сосны —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць...

## Зразумеў

Перад юбілеем свайго 95-годдзя добра яшчэ выглядаючы старэча зайшоў да цырульніка. У часе стрыжкі ён расказаў цырульніку аб сваім юбілеі.

— Я жадаю ад усяго сэрца, — сказаў цырульнік — каб мог яшчэ вас абслужыць у вашу сотую гадавіну.

— Гэта зусім магчыма, — адказаў, прыглядзеўшыся да цырульніка, старэча. — вы выглядаеце яшчэ зусім молада.

## РЭБУС

(Склала Л. Красоўская)




*Сярод чытачоў, якія правільна развяжуць гэты рэбус і прышлюць развязку ў тэрміне да 15 лістапада г. г., будзе разлясавана 10 цікавых беларускіх кніжак і альбомаў.*